## ПАСЛАННЕ ДА ЭФЕСЦАЎ

### 1 (1-23)

1 Павел, з волі Божай апостал Езуса Хрыста, святым, што ў Эфесе, і верным
у Хрысце Езусе: 2 ласка вам і спакой ад Бога, Айца нашага, і Пана Езуса Хрыста.
3 Благаслаўлёны Бог і Айцец Пана нашага Езуса Хрыста,
які благаславіў нас у Хрысце ўсялякім духоўным благаслаўленнем на нябёсах
4 і выбраў нас у Ім перад стварэннем свету,
каб мы былі святымі і беззаганнымі перад Ім у любові.
5 Ён прадвызначыў нас для ўсынаўлення
праз Езуса Хрыста,
паводле ўпадабання сваёй волі,
6 дзеля хвалы сваёй праслаўленай ласкі,
якою Ён адарыў нас ва Умілаваным.
7 У Ім мы маем адкупленне Ягонаю Крывёю,
дараванне правінаў
паводле багацця ласкі Ягонай,
8 якою шчодра адарыў нас
ва ўсялякай мудрасці і разуменні,
9 дазволіўшы нам пазнаць таямніцу сваёй волі,
паводле свайго ўпадабання, якое раней паклаў у Ім
10 для спаўнення паўнаты часу,
каб аднавіць усё ў Хрысце:
тое, што на нябёсах і на зямлі.
11 У Ім мы былі выбраны і прадвызначаны згодна з намерам таго, хто ўсё
здзяйсняе паводле пастанаўлення волі сваёй, 12 каб мы, якія раней спадзяваліся
на Хрыста, былі для хвалы Ягонай славы. 13 У Ім і вы, калі пачулі слова праўды,
Евангелле пра збаўленне вашае, і паверылі ў Яго, былі пазначаныя пячаццю
абяцанага Духа Святога, 14 які ёсць задаткам нашай спадчыны дзеля адкуплення
Ягонага набытку, для хвалы Ягонай велічы.
15 Пачуўшы пра вашую веру ў Езуса Хрыста і пра любоў да ўсіх святых,
16 не перастаю дзякаваць за вас, успамінаючы вас у малітвах сваіх, 17 каб Бог
Пана нашага Езуса Хрыста, Айцец славы, даў вам Духа мудрасці і адкрыцця ў
пазнанні Яго 18 і прасвятліў вочы сэрца вашага, каб вы ведалі, у чым надзея
паклікання Ягонага, якое багацце слаўнай спадчыны Ягонай для святых 19 і якая
нязмерная веліч моцы Ягонай у нас, веруючых праз дзеянне магутнай сілы
Ягонай, 20 якую Ён выявіў у Хрысце, калі ўваскрасіў Яго з мёртвых і пасадзіў
праваруч сябе на нябёсах, 21 вышэй за ўсялякае княжанне, і ўладу, і сілу, і
панаванне, і за ўсялякае імя, якое называецца не толькі ў гэтым веку, але і ў
будучым. 22 І *ўсё пакарыў пад ногі Ягоныя*, і паставіў Яго па-над усім галавою
Касцёла, 23 які ёсць целам Ягоным, паўнатою таго, хто напаўняе ўсё ва ўсім.

## 2 (1-22)

[1]І вы былі мёртвымі з-за праступкаў і грахоў вашых, [2]у якіх вы калісьці
жылі згодна са звычаямі гэтага свету, па волі князя, які ўладарыць у паветры,
духа, які дзейнічае цяпер у сынах непаслухмянасці. [3]Сярод іх і мы калісьці
жылі паводле жаданняў нашага цела, выконваючы волю цела і намераў, і былі
па прыродзе дзецьмі гневу, як і астатнія. [4]Бог, будучы багатым на міласэрнасць,
у сваёй вялікай любові палюбіў нас, [5]і нас, мёртвых з-за грахоў, ажывіў разам з
Хрыстом. Вы збаўлены ласкаю. [6]Ён уваскрасіў і пасадзіў нас на нябёсах у
Хрысце Езусе, [7]каб паказаць у наступных вяках нязмернае багацце сваёй ласкі
праз дабрыню да нас у Хрысце Езусе. [8]Бо ласкаю вы збаўлены праз веру. І гэта
не ад вас, гэта Божы дар. [9]І не ад учынкаў, каб ніхто не хваліўся. [10]Мы – Яго
справа, створаныя ў Хрысце Езусе для добрых учынкаў, якія Бог загадзя
падрыхтаваў, каб мы паступалі згодна з імі.

[11]Таму памятайце, што калісьці вы, язычнікі, якіх завуць «неабрэзанымі»
тыя, што называюцца абрэзанымі [з прычыны знаку], зробленага рукою на целе,
[12]былі ў той час без Хрыста, адкінутымі ад грамадства ізраэльскага і чужымі
запавету абяцання. Вы не мелі надзеі і былі бязбожнікамі ў свеце. [13]Цяпер у
Хрысце Езусе вы, якія калісьці былі далёка, сталіся блізкімі дзякуючы крыві
Хрыста. [14]Ён – спакой наш, які ўчыніў адно і другое адзіным і мур варожасці,
[15]што падзяляў, зруйнаваў у целе сваім. А Закон запаведзяў знішчыў
навучаннем, каб з двух стварыць у сабе аднаго новага чалавека, усталёўваючы
спакой, [16]і ў адным целе зноў прымірыць адных і другіх з Богам праз крыж,
забіўшы ў сабе тую варожасць. [17]І, прыйшоўшы, Ён *абвясціў спакой* вам, *якія
далёка, і спакой тым, якія блізка*. [18]Бо праз Яго мы, адны і другія, маем доступ
у адным Духу да Айца.

[19]Таму вы ўжо не чужыя і не прыхадні, але суграмадзяне святых і
дамачадцы Бога, [20]умацаваныя на падмурку апосталаў і прарокаў, дзе сам Езус
Хрыстус з’яўляецца вуглавым каменем, [21]на якім кожны складзены будынак
вырастае як святая святыня ў Пану. [22]У ім і вы разам будуецеся, каб быць
жыллём Бога ў Духу.

## 3 (1-21)

[1]Таму я, Павел, – вязень [Езуса] Хрыста дзеля вас, язычнікаў. [2]Вы напэўна
чулі пра ўдзяленне ласкі Божай, дадзенай мне дзеля вас, [3]бо праз аб’яўленне
мне была адкрыта таямніца, пра што я ўжо коратка пісаў. [4]Чытаючы, можаце
даведацца пра маё разуменне таямніцы Хрыста, [5]якая не была адкрыта сынам
чалавечым у мінулых пакаленнях, так як цяпер адкрылася святым апосталам
Ягоным і прарокам праз Духа, [6]што і язычнікі з’яўляюцца сунаследнікамі і
членамі аднаго цела, і саўдзельнікамі абяцання ў Езусе Хрысце праз Евангелле,
[7]слугою якога я стаўся дзякуючы дару ласкі Божай, дадзенай мне дзеяннем сілы
Ягонай. [8]Мне, найменшаму сярод усіх святых, дадзена гэтая ласка: абвяшчаць
язычнікам Евангелле пра невычэрпнае багацце Хрыста [9]і адкрыць усім, чым
ёсць спаўненне таямніцы, спрадвеку схаванай у Богу, Стварыцелю ўсяго, [10]каб

цяпер праз Касцёл стала вядомай князствам і ўладам на нябёсах бясконцая
мудрасць Божая, [11]паводле спрадвечнага плану, які здзейсніўся ў Езусе Хрысце,
Пану нашым. [12]У Ім мы маем адвагу і доступ [да Айца] ў надзеі праз веру ў Яго.
[13]Таму прашу, не падайце духам з прычыны майго ўціску за вас, бо гэта вашая
хвала.
[14]Таму я схіляю калені мае перад Айцом, [15]ад якога бярэ сваю назву кожны
род на нябёсах і на зямлі, [16]каб Ён даў вам, паводле багацця славы сваёй,
умацаваць сілы Духам Ягоным дзеля духоўнага чалавека, [17]каб праз веру
Хрыстус пасяліўся ў сэрцах вашых, каб вы, укараніўшыся і ўмацаваўшыся ў
любові, [18]змаглі зразумець з усімі святымі, чым ёсць шырыня і даўжыня, і
вышыня, і глыбіня, [19]і спазнаць любоў Хрыста, якая перавышае ўсялякае
разуменне, каб вы напоўніліся ўсёй паўнатою Божай.
[20]А таму, хто сілаю, якая дзейнічае ў нас, можа зрабіць непараўнальна
больш за ўсё, чаго мы просім або пра што думаем, [21]Яму хвала ў Касцёле і ў
Хрысце Езусе ва ўсе пакаленні ад веку да веку. Амэн.

## 4 (1-32)

[1]Малю вас я, вязень у Пану, паступаць годна паклікання, якім вы
паклікáны, [2]з усёю пакораю і лагоднасцю, з доўгацярплівасцю, церпячы адзін
аднаго ў любові, [3]стараючыся захаваць еднасць духа ў саюзе спакою. [4]Адно
цела і адзін дух, як і вы паклікáны ў адной надзеі вашага паклікання. [5]Адзін
Пан, адна вера, адзін хрост, [6]адзін Бог і Айцец усіх, які над усімі і праз усіх, і ва
ўсіх.
[7]Кожнаму з нас дадзена ласка паводле меры Хрыстовага дару. [8]Таму і
сказана:
«*Узышоўшы на вышыні, паланіў палонных*
*і даў людзям дары*».
[9]А што азначае «ўзышоўшы», калі не тое, што Ён сышоў да ніжэйшых
частак зямлі. [10]Той, хто сышоў, ёсць і тым, хто ўзышоў вышэй за ўсе нябёсы,
каб напоўніць усё.
[11]Ён таксама паставіў адных апосталамі, другіх прарокамі, іншых
евангелістамі, іншых пастырамі і настаўнікамі [12]дзеля выхавання святых для
справы служэння, для будавання Хрыстовага цела, [13]пакуль усе мы прыйдзем
да еднасці веры і пазнання Сына Божага, да чалавека дасканалага, да меры
сталасці паводле Хрыстовай паўнаты. [14]Каб мы больш не былі дзецьмі, якіх
хістае і захапляе кожны вецер вучэнняў, каб падманам людскім, хітрым
штукарствам увесці ў зман. [15]Будучы шчырымі ў любові, ва ўсім будзем
узрастаць да таго, хто з’яўляецца Галавою, – да Хрыста. [16]З Яго ўсё цела, якое
складаецца і злучаецца праз розныя ўзаемныя сувязі, у меру дзеяння кожнай
асобнай часткі, атрымлівае ўзрастанне для будавання самога сябе ў любові.
[17]Кажу гэта і сведчу ў Пану, каб вы больш не жылі, як жывуць язычнікі ў
марнасці свайго розуму, [18]з зацьмёным мысленнем, адчужаныя ад жыцця
Божага праз няведанне, якое караніцца ў іх, праз упартасць сэрцаў іхніх. [19]Яны,
стаўшы нячулымі, аддаліся распусце, робячы нячыстае з усёй прагнасцю.

[20]Не гэтаму вы навучыліся ад Хрыста, [21]калі сапраўды чулі пра Яго і
вучыліся ў Ім паводле праўды, якая ёсць у Езусе, [22]але таму, каб адкінуць
ранейшыя паводзіны старога чалавека, які зніштае сябе зманлівымі
пажадлівасцямі. [23]Таму аднавіце дух вашага розуму [24]і апраніцеся ў новага
чалавека, створанага паводле Бога ў справядлівасці і святасці праўды. [25]Дзеля
таго адкіньце падман, *гаварыце праўду кожны свайму бліжняму*, бо мы – часткі
адзін аднаго. [26]*Гневайцеся, але не грашыце*, няхай сонца не заходзіць у гневе
вашым. [27]І не давайце месца д’яблу. [28]Хто краў, няхай больш не крадзе, лепш
няхай працуе, здабываючы сваімі рукамі даброты, каб меў чым дапамагчы
патрабуючаму. [29]Усякае ліхое слова няхай не выходзіць з вуснаў вашых, але
толькі добрае, дзеля збудавання, каб прынесла ласку тым, хто слухае. [30]Не
засмучайце Святога Духа Божага, якім вы пазначаны на дзень адкуплення.
[31]Усякая горыч і раздражненне, і гнеў, і крык, і блюзнерства няхай будуць
выдалены ад вас разам з усякай злосцю. [32]Вы ж будзьце адзін да аднаго
лагоднымі, міласэрнымі, даруйце адзін аднаму, як і Бог у Хрысце дараваў вам.

## 5 (1-33)

[1]Дык вось, наследуйце Бога як дзеці ўмілаваныя [2]і паступайце ў любові, як
і Хрыстус палюбіў нас, і аддаў сябе за нас як дар і ахвяру Богу на прыемны пах.
[3]А распуста, і ўсялякая нячыстасць, і сквапнасць няхай нават не
згадваюцца сярод вас, як гэта належыць святым. [4]Таксама і непрыстойнасць, і
пустаслоўе, і вульгарнасць нягожыя для вас. Наадварот, няхай лепш будзе
падзяка. [5]Вы павінны ведаць, што ніякі распуснік, або нячысты, ці сквапны,
гэта значыць ідалапаклоннік, не мае спадчыны ў Валадарстве Хрыста і Бога.
[6]Няхай ніхто не зводзіць вас марнымі словамі, бо праз гэта прыходзіць
гнеў Божы на непаслухмяных сыноў. [7]Не будзьце ж іх супольнікамі. [8]Калісьці
вы былі цемрай, а цяпер вы святло ў Пану. Паступайце, як дзеці святла. [9]Бо
плод святла ёсць ва ўсялякай дабрыні, справядлівасці і праўдзе. [10]Імкніцеся да
таго, што даспадобы Пану. [11]Не бярыце ўдзел у бясплённых справах цемры, а
лепш выкрывайце іх. [12]Бо пра тое, што яны робяць патаемна, нават сорамна
казаць. [13]А ўсё, што выкрываецца праз святло, становіцца яўным, бо ўсё, што
становіцца яўным, ёсць святло. [14]Таму сказана: «Прачніся, які спіш, і ўваскрэсні
з мёртвых, і Хрыстус асветліць цябе».
[15]Глядзіце дакладна, як паступаеце, не як неразумныя, а як мудрыя.
[16]Выкарыстоўвайце час, бо дні ліхія. [17]Не будзьце ж неразважнымі, але
пазнавайце, што ёсць воляй Пана. [18]І не ўпівайцеся віном, ад якога бывае
распуста, але напаўняйцеся Духам, [19]настаўляючы саміх сябе псальмамі,
гімнамі і спевамі духоўнымі, спяваючы і праслаўляючы Пана ў сэрцах вашых.
[20]Дзякуйце заўсёды за ўсё Богу і Айцу у імя Пана нашага Езуса Хрыста.
[21]Падпарадкоўвайцеся адзін аднаму ў боязі Хрыстовай.
[22]Жонкі, падпарадкоўвайцеся мужам сваім, як Пану, [23]бо муж – галава
жонкі, як і Хрыстус – Галава Касцёла. Ён – Збаўца цела. [24]Таму, як Касцёл
падпарадкоўваецца Хрысту, так і жонкі падпарадкоўваюцца мужам ва ўсім.

[25]Мужы, любіце сваіх жонак, як і Хрыстус палюбіў Касцёл і аддаў сябе за
яго, [26]каб асвяціць яго, ачысціўшы купеллю вады ў слове, [27]каб ён з’явіўся
перад Ім слаўным Касцёлам, які не мае плямы, ці заганы, ці чаго-небудзь
падобнага, і каб ён быў святы і беззаганны. [28]Так павінны мужы любіць сваіх
жонак, як сваё цела. Хто любіць сваю жонку, любіць самога сябе. [29]Бо ніхто
ніколі не меў нянавісці да свайго цела, але корміць і даглядае яго, як і Хрыстус
свой Касцёл, [30]бо мы часткі Цела Ягонага. [31]*Таму пакіне мужчына бацьку
свайго і маці і злучыцца з жонкай сваёй, і будуць двое адным целам.* [32]Вялікая
таямніца гэтая, а кажу я ў дачыненні да Хрыста і да Касцёла! [33]Дык няхай
кожны з вас любіць сваю жонку так, як самога сябе, а жонка няхай паважае
мужа.

## 6 (1-24)

[1]Дзеці, слухайцеся ў Пану сваіх бацькоў, бо гэта справядліва. [2]*Шануй
бацьку свайго і маці* – гэта першая запаведзь у абяцанні, [3]*каб добра было табе і
каб доўга жыў ты на зямлі.* [4]І вы, бацькі, не раздражняйце дзяцей вашых, але
выхоўвайце іх праз навучанне і настаўленне Пана.
[5]Нявольнікі, слухайцеся гаспадароў вашых паводле цела з бояззю і
трымценнем, у прастаце сэрца вашага, як Хрыста. [6]Служыце не толькі для вока,
каб спадабацца людзям, але як нявольнікі Хрыстовыя, выконваючы волю
Божую ад душы, [7]служачы руплівa, як Пану, а не як людзям. [8]Ведайце, што
кожны, нявольнік ён ці свабодны, калі зробіць нешта добрае, атрымлівае тое ж
ад Пана.
[9]І вы, гаспадары, рабіце з імі тое самае: перастаньце пагражаць, ведаючы,
што і над вамі, і над імі ёсць у нябёсах Пан, які не зважае на асобу.
[10]Нарэшце, мацуйцеся ў Пану магутнасцю сілы Ягонай. [11]Апраніцеся ва
ўсю зброю Божую, каб вы маглі супрацьстаяць подступам д’ябла. [12]Бо нашая
барацьба не супраць крыві і цела, але супраць панаванняў, супраць уладаў,
супраць гаспадароў цемры свету гэтага, супраць нябесных духаў злосці.
[13]Дзеля гэтага прыміце ўсю зброю Божую, каб вы маглі супрацьстаяць у
дзень ліхі і, усё адолеўшы, выстаяць. [14]Таму станьце, *падперазаўшы сцёгны* свае
*праўдаю*, і *апрануўшыся ў панцыр справядлівасці*, [15]і абуўшы *ногі ў гатовасць
дабравесціць спакой*. [16]А разам з усім вазьміце шчыт веры, якім зможаце
пагасіць усе распаленыя стрэлы злога; [17]і *шлем збаўлення* вазьміце, і *меч
духоўны*, якім ёсць *слова Божае*. [18]Ва ўсялякай малітве і просьбе маліцеся ў
Духу пры кожнай нагодзе. А дзеля гэтага дбайце з усёй стараннасцю і маліцеся
за ўсіх святых [19]і за мяне, каб мне дадзена было слова, і я мог адкрыць вусны
свае, і адважна абвяшчаць таямніцу Евангелля, [20]дзеля якога я стаў пасланнікам
у кайданах, каб смела прапаведаваў яго, як і належыць.
[21]Тыхік, умілаваны брат і верны слуга ў Пану, пра ўсё раскажа вам, каб вы
ведалі пра мяне і што я раблю. [22]Я паслаў яго да вас, каб вы ведалі, што ў нас
робіцца і каб ён падбадзёрыў сэрцы вашыя.

23Спакой вам, браты, і любоў з вераю ад Бога Айца і Пана Езуса Хрыста.
24Ласка з усімі, якія любяць Пана нашага Езуса Хрыста незнішчальнай
[любоўю]. Амэн.

© Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі